**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 14 (782) 2 красавіка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

# Са святам Уваскрашэння Хрыстова!

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае


Вербная нядзеля.
*Фота Леаніда Юрыка*

## 12,5 тыс. пенсій прызначана па беларуска-расійскім дагаворы ў галіне сацзабеспячэння

**У Беларусі прызначана 12457 пенсій паводле дамовы паміж Беларуссю і РФ аб супрацоўніцтве ў галіне сацзабеспячэння (па стане на 1 лютага). Як паведаміла намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення пенсійнага забеспячэння мінпрацы і сацабароны Ларыса Яшкова, з прызначаных пенсій 912 пенсій экспартуюцца ў Расію.**

З Расіі ж у Беларусь экспартуюцца 18247 пенсій з агульнага ліку назначаных у Расіі пенсій, паведамілі Тэлеграфу ў міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.

Паводле слоў Ларысы Яшковай, памеры беларускіх і расійскіх пенсій індывідуальныя, бо залежаць ад параметраў стажу і заробку пенсіянера, а ў Расіі – яшчэ і ад аб'ёму выплачаных страхавых узносаў у пенсійны фонд за перыяды працы пасля 2002 года.

Выплата пенсій, прызначаных у адпаведнасці з дамовай, прадугледжана раз у квартал, іншы парадак выплаты пенсій (напрыклад, штомесяц) не плануецца, адзначыла Ларыса Яшкова.

*Telegfaf*



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**

## МНС інфармуе
**на 31.03.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 231;
Гібель людзей – 38, з іх 0 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 9;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон –172 млн. руб.



ISSN 2077-8023




## Віцебская вобласць

# Намеры на паперы

■ Станіслаў Раманчук.

**Стаўка на адміністрацыйна-камандныя метады кіравання беларускай эканомікай, падобна на тое, стала прыводзіць да вельмі сумных вынікаў.**

Аб гэтым узгадвалася на нядаўняй выніковай калегіі Камітэта дзяржкантролю па Віцебскай вобласці, якая падвяла вынікі дзейнасці ў мінулым годзе. Па матэрыялам праведзеных праверак сумесна з работнікам пракуратуры выявілася, што амаль 100 млрд. рублёў на мадэрнізацыю былі патрачаны фактычна дарэмна. Яшчэ нядаўна шмат гаварылі аб вялізных перспектывах новай фармацэўтычнай фабрыкі ААТ “Белвітуніфарм”. На яе ўзвядзенне ў вялікім цэху патрацілі 19 млрд. рублёў інвестыцый. Аднак сучасная упаковачная лінія па выпуску медыкаментаў выкарыстоўвалася толькі непрацяглы час. Увогуле там і не прыступілі да масавага выпуску айчынных вакцын. Пад асабістымкантролемкіраўніка дзяржавы вялася ў абласным цэнтры і мадэрнізацыя дрэваапрацоўчага прадпрыемства “Віцебскдрэў”. Аднак на поўную магутнасць ён так і не выйшаў і гэты калектыў, куды ўклалі нямала валютных сродкаў, уключылі на продаж па праграме прыватызацыі. Магчыма, крымінальная справа будзе ўзбуджана супраць былога дырэктара тэлезавода “Віцязь”, які яшчэ 6 гадоў назад патраціў мільён долараў на закуп двух сучасных ліній па выпуску тратуарнай пліткі. Да гэтага часу амбіцыйны праект не ажыццявіўся, дарагое абсталяванне не запушчана ў работу. Сёлета рэзка выраслі факты несвоечасовых разлікаў з работнікамі за выкананую працу. Калі летась да адказнасці за затрымку зарплаты прыцягнулі за год 711 службовых асоб, то ў лютым мелі даўгі па зарплаце ў вобласці ўжо 77 прадпрыемстваў і гаспадарак, а ў пачатку вясны іх колькасць яшчэ болей вырасла.

## Пастаўскі раён

# Ні вакансій, ні заробкаў

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ летась на айчынных прамысловых прадпрыемствах пачала змяншацца колькасць працуючых і агулам па краіне страцілі працу болей 10 тысяч чалавек.**

Падобныя праблемы напаткалі і Пастаўскі раён, які пасля развалу СССР быў сярод лідараў па ўзроўню вымушанага беспрацоўя. Праўда, з цягам часу абстаноўка з занятасцю насельніцтва тут нармалізавалася і напрыканцы 2014 года на ўліку ў цэнтры занятасці знаходзілася толькі крыху больш ста чалавек. Аднак пачатак гэтага года аказаўся трывожным, бо толькі ў студзені сёлета на біржу працы з просьбамі аб працаўладкаванні звярнулася за месяц ужо 149 чалавек. І ў далейшым іх колькасць працягвае расці, ужо ў сярэдзіне сакавіка шукалі працу 275 жыхароў раёна, якія звольніліся з-за розных прычын і не могуць самастойна працаўладкавацца. Аднак зрабіць гэта цяпер праблематычна, бо ў адным з сюжэтаў мясцовае тэлебачанне паведаміла, што свабодных вакансій практычна нідзе няма. Свабодных рабочых месцаў у раёне засталося толькі 25, з якіх 12- у сельскай мясцовасці. Амаль тры сотні беспрацоўных для аднаго раёна – гэта ўжо праблема, паколькі на адно свабоднае месца конкурс, як у самым прэстыжным ВНУ. Што характэрна, без працы засталіся ў асноўным мужчыны ва ўзросце ад 31 да 49 гадоў з прафесійна-тэхнічнай адукацыяй. Але і мець працу цяпер – не гарантыя таго, што своечасова атрымаеш заробкі. Як і ў іншых рэгіёнах пайшлі затрымкі зарплат ужо ў 12 прадпрыемстваў і мясцовых гаспадарак, у іх частку заробленых грошай сталі атаваць у магазінах.

## Браслаўскі раён

# Спорткомплекс ... у храме

■ Чэслаў Якубовіч.

**Не толькі сваімі прыгажэйшымі трыма сотнямі азёр вядомы ў Беларусі Браслаўскі раён, але помнікамі архітэктуры ў райцэнтры, Відзах, Дрысвятах, Опсы, Пеліканах і іншых мясцінах.**

Шмат цікавага можна пабачыць і ў мястэчку Друя, дзе захаваўся комплекс манастыра бернардзінцаў XVII стагоддзя разам з Троіцкім касцёлам, пабудаваным у тэхніцы ранняга барока. З нядаўняга часу гэта мясцовасць над крутым берагам ракі Заходняя Дзвіна стала вядома і ўнікальным сваім спартыўным збудаваннем. У кляштары пры мясцовым храме адкрылася сучасная трэнажорная зала. Па ініцыятыве мясцовага святара ксяндза Сяргея Сурыновіча гэты спорткомплекс заняў цэлае крыло на першым паверсе будынка. Яшчэ толькі ў храме размяшчалі спортінвентар, набыты ў Мінску з дапамогай спонсара-прадпрымальніка, тут пабываў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, сам вялікі прыхільнік добрай музыкі і здаровага ладу жыцця. З’яўленню такой трэніровачнай залы для мясцовай моладзі кіраўнік дыяцэзіі быў вельмі ўзрадаваны, бо яна акрамя духоўнага абнаўлення душы дапамагае юнакам і дзяўчатам гартаваць сваё цела, быць у добрай фізічнай форме. У адрозненне ад іншых падобных аб’ектаў, у Друі заняткі ў спортзале поўнасцю бясплатныя. Адзіная ўмова, што ключы атрымаць жадаючым пазаймацца тут, можна толькі пасля заканчэння і ўдзелу ў Богаслужэнні. Дарэчы, сюды бясплатна пускаюць на трэніроўкі і праваслаўную моладзь, каб яна была здаровая.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 02.04.15 | | | | Пятніца 03.04.15 | | | | Субота 04.04.15 | | | | Нядзеля 05.04.15 | | | | Пан. 06.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +2 | +4 | +3 | +2 | +1 | +4 | +3 | +2 | +1 | +4 | +3 | +1 | +1 | +5 | +3 | +1 | 0 | +6 |
| Ціск | 725 | 728 | 729 | 730 | 731 | 733 | 734 | 735 | 735 | 736 | 738 | 740 | 741 | 744 | 745 | 746 | 747 | 749 | 749 |
| Вільготнасць | 82 | 90 | 67 | 82 | 85 | 94 | 72 | 78 | 83 | 86 | 65 | 78 | 86 | 94 | 61 | 79 | 86 | 97 | 48 |
| Вецер м/сек | 7 | 8 | 8 | 4 | 5 | 6 | 5 | 5 | 5 | 6 | 5 | 2 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 |
| | З | Ю-З | Ю-З | Ю-З | Ю-З | З | С-З | С-З | З | З | З | З | З | З | З | З | З | Ю-З | Ю-З |

# Аб самым надзённым

## НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СВАЕ ВЯЛІЗНЫЯ ЭКАНАМІЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ, КРЭМЛЬ ВЫРАШЫЎ ПАСКОРЫЦЬ СТВАРЭННЕ АДЗІНАГА ВАЛЮТНАГА САЮЗА ЕАЭС

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Для пераходу на агульную валюту патрэбны пэўныя ўмовы, найперш адзіная мадэль эканамічнага развіцця і ўзгодненая да дробязяў сацыяльная, грашова-крэдытная палітыка банкаў. Пакуль нічога гэтага няма.**

Падобна на тое, што сёлета кіраўніцтва Расіі стала трымаць свайго “малодшага брата” у падвешаным стане. Беларускі лідар днямі знаходзіўся з рабочым візітам у Казахстане, але там сустрэўся толькі з Н. Назарбаевым, каб павялічыць аб’ём двухбаковага гандлю дзвюх краін. Прагграма паездкі ў Астану У. Пуціна не прадугледжвала такой сустрэчы з кіраўнікам Беларусі, там прайшла трохбаковая сустрэча глаў дзяржаў ЕАЭС, а значыць і пытанне “падставіць плячо”, дапамагчы беларусам валютным крэдытам зноў павісла ў паветры. Дадатковыя ж валютныя рэзервы нашай краіне зараз вельмі патрэбныя, бо на гэты год прыходзіцца пік плацяжоў па замежных выплатах крэдыторам.

Увогуле, сустрэча напярэдадні 70-годдзя Перамогі пакінула болей пытанняў, чым адказаў на іх. Увогуле, спачатку ў апошні момант яна была перанесена на 10 дзён пазней па незразумелых прычынах, нібыта з-за таемнай хваробы расійскага лідара. Чамусьці ў Астану не запрасілі прэзідэнта Арменіі, хоць гэта краіна з’яўляецца ўжо паўнацэнным членам Еўразійскага саюза. Яшчэ да паездкі ў Казахстан кіраўнік Крамля даручыў свайм падначаленым да 1 верасня сёлета прапрацаваць пытанне далейшай інтэграцыі дзяржаў ЕАЭС у валютнай і фінансавай сферах з магчымасцю стварэння ў бліжэйшай перспектыве нават валютнага саюза.

Пайшлі размовы аб тым, што будзе і назва новых агульных грошай “еўраз” па аналогіі з еўра і альбо “алтын”, паходжанне якога бярэ пачатак з часоў яшчэ татара-мангольскага іга. Толькі незразумела, чаму такую прапанову У.Пуцін робіць цяпер, калі сітуацыя ў рэальных сектарах расійскай эканомікі працягвае пагаршацца, з фінансамі ў Масквы ўзніклі вялізныя праблемы. У нас пра гэта мала гавораць, але на расійскіх прасторах летась за год абанкроцілася 14514 прадпрыемстваў, а іх працаўнікі папоўнілі рады беспрацоўных. Канешне, гэта былі пераважна невялікія прыватныя фірмы, аднак сёлета цяжкасці перажываюць і расійскія гіганты індустрыі.

Вось і праслаўлены “Уралмаш” нядаўна звольніў 1,5 тысячы чалавек, індустрыяльная Чэлябінская вобласць у сакавіку недалічылася яшчэ 9 тысяч працаўнікоў. За аванцюру “Крым наш” Расія расплаціцца па поўнай праграме і будзе цярпець цяжкасці і надалей. Аднак мне суседзяў не шкада, за агрэсію супраць Украіны трэба адказваць. Інвестыцый і сучасных тэхналогій рускім болей не дадуць, 150 млрд. USD капіталу адтуль уцяклі і не дзіўна, што ў 2014 годзе расійскі рубель абваліўся ў два разы, людзі збяднелі, у палове рэгіёнаў некалькі месяцаў нават не хадзілі электрычкі.

Мы вельмі моцна прывязаны да Расіі і таму сёлета таксама пачынаем перажываць сур’ёзныя цяжкасці. Ды і летась перад намі прайшла дэвальвацыя казахскай нацвалюты тэнге, а напрыканцы года зноў здаў свае пазіцыі і кволы беларускі рубль. У такой сітуацыі цяжка зразумець, чаму прыспешваюць пытанне стварэння такога саюза даволі слабых нацвалют. Аднак давайце ўспомнім, што ў вялізнай ядзернай дзяржаве абсалютная ўлада практычна сканцэнтравана ў руках аднаго чалавека, які там правіць даўно і яшчэ сумуе аб былой савецкай імперыі і яе развале. Пуцін любіць нават цяпер сцвярджаць, што рускія і ўкраінцы – гэта адзін народ, што не перашкаджае Крамлю пастаўляць Украіне газ па цане, большай, чым для Еўропы.

Сумна, але ў рэальнае перамір’е ў Данбасе ўжо больш шансаў ў свеце слаба вераць, як і тое, што ў “ДНР” няма пераадзетых расійскіх войск, толькі адны “добраахвотнікі-адпускнікі”. Расійскі лідар і раней прапаноўваў Беларусі перайсці на агульную валюту, але нашы ўлады абачліва ад такой ідэі ўсяляк адмаўляліся, каб поўнасцю не пазбавіцца самастойнасці. Сёлета, дарэчы, беларускія пенсіі сталі вышэйшымі крыху, чым у рускіх, а па ўзроўню заробкаў мы мала адстаём ад РФ і разам знаходзімся ў дзясятцы самых бедных краін Еўропы па ўзроўню даходаў людзей.

Характэрна,штоафіцыйныя асобы Казахстана цяпер даволі негатыўна адносяцца да прапановы з Крамля аб валютным саюзе. Казахі за тое, каб мінімум да 2025 года ў іх працягвала дзейнічаць нацвалюта тэнге. Пра далейшую пазіцыю аб адзіным валютным саюзе беларускага кіраўніцтва цяжка рабіць далейшыя прагнозы, бо напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у нас расце сацыяльнае напружанне. У адносінах з Расіяй, пра што стаў гаварыць публічна А. Лукашэнка, застаюцца складаныя праблемы, найперш эканамічныя. Ужо трэці год, як адзначалася ў Астане, назіраецца зніжэнне таваразвароту.

Для пераходу на агульную валюту патрэбны пэўныя ўмовы, найперш адзіная мадэль эканамічнага развіцця і ўзгодненая да дробязяў сацыяльная, грашова-крэдытная палітыка банкаў. Пакуль нічога гэтага няма, і нашы краіны тройкі той жа ЕАЭС сталі даволі рознымі і калі будуць спяшацца з увядзеннем еўразійскай агульнай валюты, то нічога добрага такія планы не абяцаюць простым людзям. Аднак расіяне дамагаюцца, каб падобны на іх рубель “алтын-еўраз” з’явіўся ўжо з 1 студзеня будучага года. Наступная сустрэча лідараў трох дзяржаў пройдзе ў Маскве 8 мая і тады стане болей зразумела, што нас чакае далей.

## Дзень за днём

**За пяцігодку 2011-2015 гадоў айчынная эканоміка вырасце толькі на 10 %, а не на 62-68 %, як планавалася. У Беларусі рэзка да 28,6 % вырасла колькасць стратных прадпрыемстваў і арганізацый, яшчэ больш іх на Брэстчыне і Віцебшчыне. Расія толькі прыгразіла знізіць бяспошлінныя пастаўкі нафты Беларусі, якія для айчынных НПЗ сталі нявыгаднымі. У Беларусі можа зачыніцца кожная пятая станцыя тэхабслугоўвання пасля павышэння падаткаў на даходы СТА. Для беларусаў-п'яніц плануюць абмежаваць продаж гарэлкі з 9.00 да 22.00 гадзін.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Услед за лідарамі ЗША, Англіі, Германіі, дзяржаў Прыбалтыкі глава ЕС Дональд Туск адмовіўся прыехаць у Маскву 9 мая па запрашэнню Пуціна на юбілей Перамогі.

**Англія.** Урад краіны выдзеліў звыш 30 млн. $ на фінансаванне сёлета рэформ энергетыкі, банкаў і аховы праваапарадку ва Украіне, Грузіі, Малдове і змяншэнне ўплыву Расіі.

**Украіна.** Ніводнай эканамічнай праблемы анексіраванага Крыма не ўдалося вырашыць уладам Расіі, яны нават узмацніліся, паўвостраў стаў самым датацыйным рэгіёнам РФ.

**ЗША.** Савет упраўляючых МВФ вырашыў прадаставіць 17,5 млрд. долараў Украіне ў рамках чатырохгадовай праграмы дапамогі ў правядзенні эканамічных рэформ.

**Кітай.** Адзін з лідараў КНР Лі Кецян заявіў, што кітайцы падтрымліваюць суверэнітэт і цэласнасць тэрыторыі Украіны, пытанне лёсу Крыма павінна вырашаца на перамовах.

**ФРГ.** Германія і цывілізаваны свет, як заявіла канцлер А. Меркель, ніколі не прызнаюць анексію Крыма Расіяй, санкцыі супраць РФ узрастуць пры абвастрэнні падзей у Данбасе.

**Расія.** Спроба "Газпрама" спыніць рэверс газу на Украіну прынесла кампаніі падзенне выручкі на 5,5 млрд. $ і 400 млн. $ штрафу за зияншэнне аб'ёмаў пракачкі па кантракту.

**Казахстан.** На сустрэчы ў Астане рускі лідар Пуцін прапанаваў калегам з Беларусі і Казахстана стварыць у будучым агульны валютны саюз, перайсці на адны грошы.

**Расія.** Старшыня Цэнтрабанка РФ Э. Набіуліна пацвердзіла, што стагнацыя ў расійскай эканоміцы спыніцца не раней І-га квартала 2016 года, паўсюдна расце беспрацоўе.

**Саудаўская Аравія.** Уплывовы член каралеўскай сям'і пацвердзіў, што здзелка па ядзернай прграме Ірана толькі падштурхне іншыя краіны рэгіёна займець ядзерную зброю.

**Туніс.** Вельмі моцным ударам на турысцкай індустрыі краіны стала нападзенне тэрарыстаў на музей у цэнтры сталіцы побач з парламентам, дзе загінулі 22 чалавекі.

**ЗША.** Агентства НАСА правяло першыя выпрабаванні самай магутнай у гісторыі касманаўтычных ракеты SLS, прызначанай для палётаў на Марс пасля 2030 года.

**Расія.** Не бачачы для сябе перспектыў, амерыканскі аўтаканцэрн GM аб'явіў аб закрыцці сваіх заводаў Opel і асноўнага раду мадэляў Chevrolet, спыніцца іх выпуск і на "ГАЗе".

**Польшча.** На сталічных ваенных могілках Pawonzki вырашылі пабудаваць Пантэон-маўзалей памяці герояў антыкамуністычных выступленняў у пасляваенныя гады.

**Ватыкан.** Святы прастол пацвердзіў, што гатовы прыняць з афіцыйным візітам А. Лукашэнку, аднак абурыўся вынесеным у Беларусі смяротным прыгаворам злачынцу.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Начальнік упраўлення Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Алег Такун пацвердзіў, што за 2 месяцы прыбавілася ў Беларусі 11,7 тысяч беспрацоўных, а вакансій усё меней.

**Салігорск.** Першай у свеце Беларуская калійная кампанія заключыла выгадны кантракт на пастаўкі ўгнаенняў у Кітай, аднак праблемы будуць у канкурэнта – "Уралкалія" з Расіі.

**Мінск.** Калі Барак Абама вырашыў згуляць супраць Расіі, як заявіў вядомы эканамічны аналітык Леанід Заіка, то МВФ выдзеліць зноў патрэбны Беларусі фінансавы крэдыт.

**Брэст.** На прызнаным банкрутам ААТ "Брэсцкае піва" ходзяць розныя чуткі, хто купіць іх прадпрыемства раней хацела фірма з Чэхіі, але не дамовілася з беларускімі ўладамі.

**Барысаў.** На 458 км трасы Брэст-Масква адбылася масавая аварыя з 6 аўтамабіляў, інкасатарскую машыну нават зацiснула паміж дзвюмя фурамі.

**Бяроза.** Калектыў мясцовага МКК парадавала, што Расія зняла забарону на пастаўкі мясапрадуктаў са свініны, летась аб'ёмы адгрузкі іх з Беларусі ўпалі амаль у 4 разы.

**Мінск.** Генпракуратура Беларусі распачала крымінальную справу супраць былога 55-гадовага дырэктара выдавецтва Беларускага Экзархата за крадзеж царкоўных грошай.

**Магілёў.** Сотні жыхароў горада спазніліся на працу з-за вялізных пробак у цэнтры, якія ўзніклі падчас работ па рэканструкцыі цеплатрасы ў абласным цэнтры.

**Мінск.** Як бы ні завяршыўся канфлікт у Данбасе, 60% вымушаных уцекачоў з Украіны, па апытаннях Упраўлення ААН па справах бежанцаў, назаўжды застануцца ў Беларусі.

**Ліда.** Прама на вуліцы арыштавалі падчас атрымання хабару намесніка главы раёна па ідэалогіі і старшыню сельскага савета, яны бралі грошы за ўнясенне ў спісы на бясплатныя візы.

**Брэст.** Пры рэгістрацыі на мяжы ў Цярэспалі польскія пагранічнікі затрымалі француза, які вёз у вялізным чамадане рускую жонку без візы, ім пагражае да 3-х гадоў турмы.

**Мінск.** Старшыня савета дырэктараў "Еўрагандлю" А. Зубкоў пацвердзіў, што колькасць пакупнікоў гандлёвай сеткі "Еўраопт" вырасла амаль да аднаго мільёна ў дзень.

**Магілёў.** Пацярпелы гараджанін адсудзіў у аўтапарка № 24 0,5 мільёна рублёў за траўму нагі ў аўтобусе з-за няўважлівага вадзіцеля, які паспяшаўся закрыць дзверы аўтобуса.

**Баранавічы.** Падчас перасячэння граніцы з Украінай мытнікі канфіскавалі ў мясцовага 33-гадовага жыхара 36 кг схаваных рыбалоўных прыналежнасцей і яго аўто Аудзі-100.

**Барысаў.** Уладальнік ФК "БАТЭ" А. Капскі прызнаўся, што ў клуба не хапае 10 мільёнаў долараў, каб пачаць будаўніцтва дзіцячай футбольнай акадэміі ў Смалявічах.

## У Віцебскай вобласці 38 чыноўнікаў прыцягнулі да адказнасці за парушэнні працэдуры прыватызацыі




■ Карр. БелТА

**У Віцебскай вобласці 38 службовых асоб гарадскіх раённых выканаўчых камітэтаў і арганізацый жыллёва-камунальнай гаспадаркі прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці за дапушчаныя парушэнні пры правядзенні працэдур прыватызацыі. Пра гэта паведамілі БелТА ў Генеральнай пракуратуры Беларусі.**

Пракуратура Віцебскай вобласці выявіла завышэнне кошту прыватызуемых кватэр

«У ходзе праведзеных пракуратурай ва ўзаемадзеянні з падраздзяленнямі Камітэта дзяржжаўнага кантролю праверак устаноўлена, што ў 2013-2014 гадах мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі ажыццёўлена прыватызацыя больш за 31 тыс. аб'ектаў нерухомасці, пры гэтым не заўсёды выконваліся нормы дзеючага заканадаўства», - растлумачылі ў ведамстве.

Па дадзеных пракуратуры, у Наваполацку, а таксама ў Аршанскім, Лёзненскім, Глыбоцкім, Гарадоцкім і Полацкім раёнах выканкамы не выконвалі месячны тэрмін разгляду заяў грамадзян аб прыватызацыі жылых памяшканняў. Акрамя таго, нярэдкія выпадкі няслушнага вызначэння кошту аб'ектаў нерухомасці, якія падлягаюць прыватызацыі. У Віцебску і многіх раёнах вобласці дапускалася і няправільнае прымяненне агульнага індэкса змянення кошту будаўніча-мантажных работ, некарэктна ўжываліся каэфіцыенты спажывецкіх якасцяў жылых памяшканняў, няправільна вызначаліся плошчы, якія падлягаюць прыватызацыі аб'ектаў. Парушэнні пацягнулі за сабой як завышэнне, так і заніжэнне кошту прыватызуемых грамадзянамі жылых памяшканняў.

У Полацку ўстаноўлены эпізоды, калі рашэнні аб прыватызацыі памяшканняў у жылых дамах, якія з'яўляюцца гісторыка-культурнымі каштоўнасцямі, прымаліся без падпісання ўдзельнікамі прыватызацыі ахоўных абавязацельстваў. У многіх раёнах рашэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў аб прыватызацыі жылля прымаліся без неабходных дакументаў. У Віцебску, Наваполацку, а таксама Віцебскім, Аршанскім і Полацкім раёнах належным чынам не кантралявалася, ці своечасова паступаюць у бюджэт сродкі ад прыватызацыі. Не прымаліся і належныя меры па спагнанню пратэрмінаванай запазычанасці па выплаце чарговых узносаў за прыватызуемае жыллё або скасаванню дамоваў купліпродажу ў судовым парадку.

Па выніках праверак пракурорамі ўнесена 21 прадстаўленне і прынесена 20 пратэстаў на незаконныя рашэнні выканкамаў аб прыватызацыі жылля.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Кіраўніцтва вобласці прызнала сур'ёзныя праблемы ў АПК, гаспадаркі рэгіёна павінны да 30% фонда заработнай платы выплачваць рознымі прадуктамі харчавання.

**Глыбокае.** Эканамічны суд Віцебскай вобласці пачаў справу аб банкротстве двух прадпрыемстваў: Плiскага льнозавода і кансервавага завода "Купцовъ".

**Віцебск.** Пракурор вобласці Генадзь Дыско заявіў, што праверкі сумесна з Камітэтам дзяржкантролю выявілі, што да 100 млрд. рублёў на мадэрнізацыю патрачаны ўпустую.

**Орша.** Глава вобласці М. Шарстнёў пацвердзіў, што на базе мясцовага і Полацкага камбінатаў хлебапрадуктаў створаць міжраённы аграхолдынгі, як і ў Віцебску, Глыбокім

**Наваполацк.** Упершыню ў гісторыі будтрэста №16 перасталі браць на работу, працоўны дзень скарацiўся на гадзіну, з-за недахопу аб'ектаў заробкі ўпалі да 3-4 млн. рублёў.

**Віцебск.** Палкоўнік запасу, былы старшыня гарвыканкама Міхаіл Партноў пайшоў на павышэнне і стаў новым намеснікам Міністра спорту Беларусі па турызму.

**Шаркаўшчына.** Мясцовы кансервавы камбінат заказаў лясгасам толькі 60 тон бярозавага соку для перапрацоўкі, попыт на яго ўпаў з-за банкротства заводаў Полацка, Глыбокага.

**Браслаў.** З дапамогай гранта ЕС абласная псіхбальніца "Слабодка" нарэшце абнавіла свой жаночы корпус, набыла аўтамабіль для перавозкі хворых, абсталяванне для лабараторыі.

**Полацк.** За падманны данос аб нібыта абкраданні на вакзале 25-гадовая гараджанка атрымала 1 год абмежавання волі, бо была асуджана ўмоўна раней за крадзёж.

**Паставы.** Раптоўна з-за спынення сэрца памёр знакаміты паэт, аўтар 17 песень, гімна горада і некалькіх кніг прозы, патрыёт беларускасці 78-гадовы Аркадзь Нафрановіч.

**Віцебск.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць выкладчыцы індустрыяльна-педагагічнага каледжа, за станоўчыя ацэнкі яна атрымала 14 мільёнаў. рублёў ад навучэнцаў.

**Шаркаўшчына.** З-за падпалу сухой травы загарэўся днём цялятнік ААТ "Княж" у вёсцы Жукі Горныя, супрацоўнікам МНС удалося выратаваць 70 маладых цёлачак і бычкоў.

**Талачын.** Каля свайго дома ў вёсцы Зялёнае атрымала моцныя апёкі цела з-за падпаленай травы пенсіянерка і на другі дзень памерла ў бальніцы, такі ж лёс напаткаў і віцябляніна.

**Полацк.** У Сафійскім саборы пачаўся Міжнародны фестываль старажытнай і камернай музыкі, да 28 красавіка пройдзе 9 канцэртаў выканаўцаў з Германіі, Польшчы, Бельгіі.

**Орша.** З-за недахопу фінансаў навічок 1-й лігі ФК "Орша" не змог выехаць нават на кантрольны матч у Смалявічы, у клубе засталося толькі 6 ігракоў леташняга складу.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Народная прыкмета – калі загадзя, беспадстаўна, хаваюць чалавека, то яму адмераны доўгі век! Герой нашага апавядання – размяняў другую сотню гадоў!

# Двойчы ў расстрэльных спісах: першы – "за сувязь з партызанамі", другі – "за сувязь з немцамі"

■ Уладзімір Скрабатун

**У вёсцы Маргавіца, што фактычна ў межах мястэчка Бягомль, жыве 100-гадовы Сямён Паўлавіч Ставер. Ужо сам факт такога паважанага ўзросту ў чалавека заахвочвае журналіста на сустрэчу з ім.**

Натуральна, аўтар гэтых радкоў сустракаўся ў свой час і з ветэранамі Першай сусветнай вайны, але ж, калі гэта было! 25-30 гадоў таму! І ім было тады па 95 гадоў. Але й Сямён Паўлавіч Ставер нарадзіўся ў 1915 годзе, г.зн., яшчэ пры царскім рэжыме, да рэвалюцыі! 16 лютага споўнілася 100 гадоў!

Як сталася, мы былі не першыя, хто завітаў да старажыла. Было тут і Беларускае тэлебачанне, мінскія і віцебскія журналісты.Сын Павел, нават, пажартаваў: "Трэба ўводзіць таксу за інтэрв'ю для журналістаў, калі ўжо няма адбою ад іх цікаўнасці!"

**Немцы ўвайшлі ў Бягомль раптоўна!**

Немцы хоць і не надоўга, але паспелі пагаспадарыць у Бягомлі. Сталася гэта 2 ліпеня 1941 года, каля 12.00 гадзінаў дня, калі перадавыя часткі 39-га танкавага корпуса 3-й танкавай групы з ходу ўварваліся ў мястэчка. Акупанты размясцілі ў пасёлку гарнізон і ператварылі яго ва ўмацаваны пункт з агнявымі кропкамі, акопамі, дзотамі. Яму адводзілася роля апорнага пункта па ажыццяўленні ўзаемадзеяння немецкіх гарнізонаў для барацьбы з партызанскім рухам у паўночна-усходніх раёнах Мінскай вобласці. Але гэты праект акупантаў не стаўся доўгатэрміновым – 20.12.1942 г. партызаны разграмілі нямецкі гарнізон у Бягомлі.

**Не зняў шапкі перад немцам!**

*– Якія парадкі былі пры немцах у Бягомлі?*

– Пры немцах я працаваў у Бягомльскай школе, дырэктарам быў камуніст Янкоўскі. Выкладалі вучням па савецкіх падручніках і па савецкіх праграмах.

Валодзя Таракан, настаўнік – ужо збіраўся сыходзіць у партызаны. Паводзіў сябе досыць смела. Ідзём неяк разам, а тут – немец. Чаму шапку не зняў? Ды па шапцы яму!

А-а-х! Валодзя як успыліў! Ледзьве, ледзьве я яго стрымаў. Гэтым разам абышлося! Аднак, усё ж, праз колькі часу, немцы яго расстралялі... За сувязь з партызанамі.

**Заўтра – расстрэл! Сыходзім!**

*– Усё ж, пад акупацыяй, жыць небяспечна!*

– У нямецкай камендатуры з нашай Маргавіцы працавала тры дзяўчыны, хто кім: тэхнічкай, поварам.

Вольга Свірко заўважыла на стале расстрэльны спіс з трох чалавек за сувязь з партызанамі. У мяне ж сястра была ў партызанах. Кантактаваў з ёй! У спісе акрамя мяне былі – Янкоўскі, дырэктар нашай школы, і Радкевіч з Забор'я, працаўнік нямецкай управы (сельсавета).

Прыбегла дзяўчына: "Сыходзьце ў лес! Вас мусяць заўтра расстраляць!"

Падаліся мы ў Саўскі Бор, за раку Бярэзіну. Там жыў мой стрыечны брат, які завёў нас да партызанаў.

**З-за сястры стаўся апраўданы**

*– Як адрэагавалі партызаны на Вашую працу настаўнікам пры немцах?*

– Пры партызанскай уладзе запыталіся: хто ў немцаў працаваў? Пётр Герасімёнак з Маргавіцы і прывёў да мяне партызанаў. Камандзір атрада, нават, забраў некаторыя мае рэчы, бо лічыў, што мяне трэба расстраляць. І ўсё! Павялі расстрэльваць!

Але Герасімёнак кажа: "Не! Вы яго не расстрэльвайце! У яго сястра – у партызанах! Брата ж ягонага, галоўнага інжынера Харкаўскага трактарнага завода немцы катавалі, каб паказаў станкі, якія не паспелі вывезці, і ён іх закапаў. Пажыў ён пасля катавання толькі два месяцы".

Ну, раз так, адпусцілі, нават тое-сёе вярнулі мне з адзення. Як бы з-за сястры стаўся я апраўданы.

Сястра ж ужо як год была ў партызанах. У 1941-м, як пачалася вайна, пайшла!

**Свінні елі людзей**

*– Які самы жахлівы эпізод вайны запомніўся?*

– У Барысаўскім раёне пад націскам немцаў партызаны вымушаныя былі пакінуць вёску. Калі ж вярнуліся ізноў, пасля сыходу немцаў, убачылі жахлівую карціну. Мноства пастраляных людзей ляжыць на зямлі. А хлявы расчыненыя! Па ўсёй вёсцы свойскія свінні ядуць трупы людзей! Жах! Я потым тыдзень не мог есці, мяне ванітавала! Да такога прывыкнуць не магчыма...



**Сямёну Паўлавічу Ставеру, жыхару вёскі Маргавіца, – 100 гадоў і 1 месяц! Год нараджэння – 1915-ы. Фантастыка!** *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

**Заданне не выканалі, але пабілі шмат немцаў!**

*– А Вы сутыкаліся з немцамі наўпрост, тварам у твар? У рукапашнай, напрыклад.*

– Быў я палітруком роты. Далі мне аддзяленне партызанаў, загадалі прыгнаць статак кароў ад немцаў, бо ў нас скончалася мяса. Пайшлі пад Мінск у Рудзенскі раён, вёска Дудзічы. Падыйшлі да ракі, мост узарваны, наш бераг – высокі, пазіцыя зручная. Бачым, немцы ходзяць у вёску праз рэчку – па кладках, збіраюць там яйкі і курэй. Мы адкрылі агонь, шмат іх паклалі.

Вярнуліся ў атрад, я дакладаю: "Заданне не выканалі – кароў не прыгналі, але шмат немцаў паклалі, прывялі з сабой двух палонных!"

Начальства доўга не магло паверыць у такі поспех нашай аперацыі! Але я і сёння не лічу, што мы праявілі нейкае геройства, гэта, усяго, быў толькі паспяховы для нас збег абставінаў.

А на заўтра наляцелі самалёты і надта ж нас прыкалалі да зямлі. Спускаліся нізка і абстрэльвалі, мой таварыш загінуў.

Палоннымі былі чэхі. Яны пагадзіліся стаць партызанамі, былі залічаныя ў гаспадарчы ўзвод. І трэба сказаць, што чэхі, насамрэч, да немцаў адносіліся нядобразычліва.

**За марадзёрства – расстрэл перад строем!**

*– У нас, на Глыбоччыне, у аповядах старажылаў, партызаны часта падаваліся як бандыты, якія рабавалі мірных жыхароў, забіралі апошняе, чаго нават немцы не рабілі. А ў вас, на Бягомльшчыне, як?*

– Было і ў нас! Гэта праўда! Траплялі ў партызаны і п'яніцы, і розныя жулікі. Зойдуць у хату – перавернуць у жанчынаў усе куфры "даверху дном"! Найперш шукалі гарэлку.

Калі высвятляліся такія акалічнасці, рабаўніка – расстрэльвалі перад строем партызанаў! Васька Чарнышоў, добры хлопец, гарманіст, гады 22, шкада яго было! Расстралялі! І гэта не адзінкавы выпадак... Так што нельга і партызанаў апраўдваць...

Я ж быў зусім абнасіўся, абутку няма, дык падвязаў галёшы і хадзіў! А які аўтарытэт у палітрука роты з такім выглядам? Адзін вясковы стары ўбачыў і кажа: "Што ж гэта Вы – зусім босы!"

– Нічога!– кажу,– мо з часам і я штосьці набуду.

– Пойдзем,– кажа стары,– я вам сынава дам, ён у войску.

Даў мне боты і касцюм. Я, нават, прасліязіўся! Усё-такі людзі добра адносіліся да нас партызанаў.

**У партызанаў быў свой аэрадром**

*– Трэба было харчавацца, мець зброю і адзенне. Як здабывалі? У немцаў?*

– Наконт зброі праблемаў не было. Партызаны мелі свой аэрадром! Дастаўлялі з-за лініі фронту. Адзенне і ежу трэба было мець сваё. Глядзелі, у каго было дзве каровы, і вымушаныя былі забіраць адну.

**Ад палітрука – да памочніка старшыні аблвыканкама**

*– Дзе і як Вы сустрэлі Перамогу?*

– Пасля вызвалення Беларусі партызанамі папоўнілася армія, і яны пайшлі далей на Захад. Хто ж меў адукацыю, былі захаваныя як кадры. Арганізавалі 6-месячныя курсы партсавецкіх работнікаў, куды патрапіў і я. Пасля сканчэння іх былі накіраваныя памочнікам старшыні Пінскага аблвыканкама. Была пасля вайны такая Пінская вобласць. Працаваў да сканчэння вайны.

Аб перамозе даведаўся, калі быў дзяжурным па аблвыканкаму. Знаходзіўся ў кабінеце старшыні аблвыканкама.Чую, страляюць у горадзе! У чым справа? Аказваецца, ад радасці – скончылася вайна! Стрэліў і я, ды так няўдала, што куля патрапіла ў чарнільніцу старшыні!

– Ладна, у гонар Перамогі, нічога страшнага!– супакоіў старшыня.

Папрасіўся ў родны край, дзе жылі мае дзве сястры, якім трэба дапамагчы. Усё тут было спалена, у вёсцы Маргавіца засталіся цэлымі толькі два дамы. Іх немцы таксама падпальвалі, але яны, чамусьці, не згарэлі. У адным доме пасяліўся райкам, у іншым – сельпо.

Я ж працягваў працаваць настаўнікам матэматыкі ў нашай школе.

**Як пражыць сто гадоў?**

*Які сакрэт доўгалецця?*

– Ніякіх сакрэтаў няма! Не піць, не курыць, працаваць, але не перашчыраць, есці здаровую ежу.

Мая жонка таксама пражыла доўгае жыццё – 89 гадоў, год як яе не стала.

***

Што робіць стары партызан цяпер? Любіць чытаць кнігі, у асноўным, расейскіх аўтараў, апошняй прачытанай кнігай была кніга пісьменніка Васіля Смірнова.



**Прыгожы дом з аканіцамі спадарства Ставераў ў Маргавіцы.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Глыбоцкія журналісты Леанід Юрык і Зміцер Зупач здымаюць сюжэты для відэафільма аб Сямёну Ставеру.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



# Мястэчка маёй любові

## Рыхтуецца да друку кніга пастаўчаніна Алеся Касцяня



**Гэту кнігу Алесь, на жаль, не паспеў скончыць. Ён заўчасна пайшоў у іншы свет 17 верасня 2009 года. 18 красавіка гэтага года яму б споўнілася 60 гадоў. Да гэтай даты па ініцыятыве пастаўчаніна Міхала Гіля і рыхтуецца выданне кнігі «Мястэчка маёй любові». Вельмі ўдзячны Міхалу за тое, што справу падрыхтоўкі гэтага выдання ён даверыў мне, бо менавіта Алесь Касцень шмат у чым спрычыніўся да таго, што я ўжо ў сталым узросце стаў журналістам. Таму на правах укладальніка кнігі прапаную чытачам урывак з яе. Тут Алесь якраз падымае тыя тэмы, пра якія я даўно збіраўся напісаць, алё ўсё не даходзілі рукі. А тут знайшоў гэта ў Алеся, таму чытайце, калі ласка.**

*Зміцер Лупач*

...Найбольш, як заўсёды ў войнах і канфліктах, дзе проста не можа быць захавання хоць нейкай справядлівасці, пацярпелі простыя людзі. Найперш яўрэі. Пастаўскае гета было знішчана ў лістападзе 1942-га года. Некалькі тысяч яўрэяў і сёння ляжаць у асноўным у двух магілах у межах Пастаў. Над адной яшчэ ёсць нейкая пліта. А над другой проста курган на прыватных агародах зарослы травой. Ва ўсе паваенныя гады не клаліся сюды кветкі смутку. Толькі калі якія адзінаверцы прыязджаюць здалёку пакланіцца ахвярам вайны. Не клаліся - афіцыйна – кветкі і да магіл беларусаў, якія расстраляныя немцамі ў час акупацыі. Магілы гэтыя знаходзяцца ў парку ля гарадскога стадыёна. Пасля вайны, сваякі некаторых раскапалі гэтыя магілы, па абутку, адзенні пазнавалі сваіх, перазахоўвалі. Але большасць так і засталася ў равах. Няма ніякага знаку, ніякага крыжа нават. Куды прасцей мясцоваму кіраўніцтву было пад час чарговага свята пакласці кветкі ў цэнтры плошчы, да помніка двум вайскоўцам, што нібыты перазахаваны тут пасля вайны. Гэта своеасаблівы сімвал. Ну, а астатнія – выбачайце: ніхто не забыты. Нішто не забыта.

Стаю на цэнтральнай плошчы, якая, канечне, ж і сёння называецца імем Леніна. І ён, адзін з заснавальнікаў збанкрутаванага вучэння, прысутнічае тут. Раней стаяў з працягнутай рукой, ды з нейкіх прычын праз колькі дзён пасля путчу гэкачэпістаў у Маскве быў заменены на другі. Цяпер Ленін трымае руку ў кішэні. Ну, а ў чатыры бакі ад плошчы разбягаюцца галоўныя вуліцы горада. Праўда, цяпер яны і называюцца адпаведна - Чырвонаармейская, Савецкая, 17 Верасня і Ленінская. Ці пазнаў бы плошчу яе фундатар Антоній Тызенгаўз? Па агульных абрысах, відаць, што так. Але аблічча сваё яна памяняла значна. Прычым, за архітэктурную перабудову плошчы ўзяліся з усіх улад, якія перабывалі тут за XX стагоддзе, толькі саветы на чале з бальшавікамі. Пачалі гэта поспехам. Ужо ў перыяд паміж 39-м і 41-м правялі камсамольскія суботнікі і знішчылі гандлёвыя рады ў цэнтры. Зразумела, камсамольскія неафіты, заўзята руйнуючы старыя сцены і разбіваючы сквер, не здагадваліся нават, што праз некалькі дзясяцігоддзяў вучоныя гісторыкі будуць хапацца за галаву – знішчаны архітэктурны комплекс ці не адзіны ў Беларусі. Ну, а пасля вайны дасталося і іншым будынкам. Знішчылі адну з цэркваў на плошчы, на яе месцы паўстаў будынак кінатэатра. Універмаг, універсам, іншыя будынкі "падправілі" агульны яе выгляд. Часткай плошчы быў і бераг рэчкі Мядзелкі, дзе знаходзіліся магілы польскіх жаўнераў. Над імі ўзвышаўся манумент, што вянчаўся "ожэлам бялым". Новыя ўлады, якія мала ўвагі звярталі на захаванні сваіх салдат, да магіл салдат іншых краін адносіліся без павагі. Хутка яны былі зруйнаваныя. А вось з манументам давялося паваждацца. Не ўзялі яго адбойныя малаткі, не змаглі зрынуць і танкамі. Адзінае, што сарвалі белага польскага арла. Ну, і канечне, паўстаў чатырохпавярховы гмах, дзе размяшчаюцца вось ужо колькі дзясяцігоддзяў раённыя ўлады і службы.

І ўсё-такі ў апошнія гады плошча і прылягаючыя да яе вуліцы па сваёй функцыянальнасці сталі падобнымі да тых, якія некалі і ўтварылі мястэчка. Практычна няма тут будынка, дзе б не размясціліся шматлікія прыватныя крамы, крамачкі. Праўда, сядзяць у іх ужо не пайсатыя прадстаўнікі народа Ізраілевага, а маладыя хлопцы і дзяўчаты.

Калі бываю на гандлёвай плошчы, заўсёды позірк спыняецца на двухпавярховай мураванцы, якая досыць удала ўпісваецца ў архітэктурны ансамбль, хаця ўзводзіўся будынак ужо ў трыццатыя гады XX стагоддзя. Шмат дзясяцігоддзяў пры савецкай уладзе у будынку месціўся банк, потым, калі банкі сталі на вачах багацець, мясцовыя фінансісты ўзвялі сабе сучасную пабудову, а вось гэты будынак на плошчы надоўга застаўся без гаспадара. Ды давайце па парадку. Жыў каля Пастаў чалавек па прозвішчу Галубоўскі. З-за невялікага надзелу зямлі ў сям’і выбраў сабе іншую справу – краўца. Доўга прабіваў дарогу ў прафесію. Нават у Амерыцы на заробках пабываў. Але ў рэшце рэшт атрымаў у Вільні дыплом майстра, так што не толькі сам мог шыць, але і вучняў сабе браць. Атрымаўшы нейкія грошы, вырашыў будаваць дом. І менавіта на плошчы, там, дзе заказчык яго знойдзе. А такую вялікую мураванку узводзіў таму, што разлічваў на вучняў. Ды і сям’я немалая. Слава пра майстра пайшла добрая. З’явіліся вучні, заказчыкі, паўстаў і дом. Але накаціў верасень 39-га, прыйшла ў мястэчка ўлада тых, хто на дух не пераносіў ні прыватнага прадпрымальніцтва, ні, тым больш, прыватнай маёмасці ў такіх памерах: ого! – дом то двухпавярховы са склепам. У снежні ж гэтага года заявіўся да краўца чалавек у скуранцы з пісталетам на баку. За 24 гадзіны трэба было ачысціць памяшканне. Ачысцілі, хаця мароз у тым годзе лютаваў. У 41-м, калі прыйшлі ў мястэчка немцы, яны вярнулі прыватную ўласнасць гаспадару. Але навучаны горкім вопытам майстар у час вайны ўжо не жыў там – размясціў толькі майстэрню і вучняў. Зразумела, у 44-м дом зноў быў аддадзены аддзяленню дзяржбанка. Так і беглі гады. Але ў 90-х гадах, калі будынак фінансісты пакінулі, прастаяў ён колькі год пустым, папаўзлі па Паставах чуткі, што гэты будынак купляе адзін з калгасаў раёна, ды не проста купляе, а нейкім чынам прэзентуе яго высокапастаўленай раённай асобе. Ужо і нейкія рамонтныя работы пачаліся. Вось тады і спахапіліся нашчадкі дзядулі Галубоўскага. У іх жа ад бацькі і дзядулі засталіся дакументы. Купчая на пляц пад будаўніцтва дома. Іншыя паперы, якія ясна паказвалі, хто і за што ўзводзіў гэты дом, чыёй ён быў уласнасцю. І пайшлі людзі па інстанцыях. Пяць гадоў цягнулася справа. Падключыўся да яе і я ў якасці журналіста. Было шмат публікацый у абласным, рэспубліканскім друку. І справа дайшла такі да суда. Зыск нашчадкі Галубоўскага прад’явілі калгасу, які выкупіў дом. І выйгралі, што, як потым мне расказвалі чыноўнікі, стала для Беларусі прэтэдэнтам. Спрацавалі тут два факты. Наяўнасць у нашчадкаў дакументаў і, галоўнае, у 39-м, адбіраючы маёмасць улады не паклапаціліся аформіць усё як след, нацыяналізаваць будынак па ўсіх правілах тагачаснага заканадаўства. Ды і хто з тагачасных людзей у скуранках мог падумаць, што можа быць дадзены адваротны ход?

Некалі ў дзяцінстве ад сваіх бацькоў пераняалі мы яшчэ польскіх часоў прыказку, якой ахвотна карысталіся: “Кампанія была не бардзо велькая, але пажондная – пан вуйт, пан пісар, тшы курвы і я”. А між тым, яна ў нейкай ступені паказвала колькасць людзей начальніцкіх, чынавецтва ў той час. Нешматлікім было яно. Толькі з пасляваенных часоў назіраюцца ў мястэчку і раёне дзве трывалыя тэндэнцыі. Нягледзячы на ваенныя страты колькасць насельніцтва ў раёне складала ў пяцідзясятыя каля сямідзесяці тысяч. І усе мінулыя гады няўхільна змяншалася. Сёння яго далёка менш пяцідзесяці тысяч. А вось колькасць чыноўнікаў усіх рангаў няўхільна расла. Хутка чатырохпавярхоўнага гмаха на плошчы не стала хапаць, сталі засяляць іншыя будынкі. Больш таго, калі ў 1991 годзе знік райкам камуністычнай партыі і цэлы чацвёрты паверх у гмаху вызваліўся – усе кабінеты тут жа знайшлі новых уладальнікаў. І ўсё роўна ў вялікай цеснаце месціцца чыноўнікі. І ў кожнага свой клопат, свае паперы, важней якіх няма нічога.

Цікавая ілюстрацыя да гэтага – рост колькасці міліцыянтаў. За дзесяцігоддзяў пяць, са змяншэннем насельніцтва, склад райаддзела міліцыі вырас разы ў чатыры і налічвае сёння каля двухсот чалавек. Таксама можна параўнаць з часамі царскімі, калі станавы прыстаў і нешматлікія яго памагатыя трымалі ў парадку і гэту тэрыторыю, і тутэйшае насельніцтва, якое прымала ўладу, што не надта абцяжарвала падаткамі. Тыя паўстанні на Беларусі, якія патрусілі крыху ўстоі царызму ў XIX стагоддзі, былі паўстаннямі шляхты, сяляне і местачковае мяшчанства трымаліся ў асноўным індыферэнтна, а то і выступалі на баку расійскага войска і ўлад. І "за польскім часам" колькасць карных ці праваахоўных службоўцаў (як каму падабаецца называць) была досыць невялікай. Хаця ў мястэчку варушыліся ўжо прыхільнікі бальшавікоў, якія ўваходзілі ў камуністычную партыю Заходняй Беларусі.

*Алесь Касцень*

## Паставы вачыма фотамастака Андрэя Мацура





# Абмежаванні на лоўлю рыбы



**З надыходам вясны для рыбаловаў-аматараў ўступілі ў дзеянні і першыя абмежаванні на аматарскую лоўлю рыбы, дакладней, на вылаў асобных відаў рыбы і водных жывёл.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслыннага свету*

Згодна з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, у мэтах захавання рыбных рэсурсаў і стварэння спрыяльных умоў для іх узнаўлення Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа ўсталёўваць абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства, лоўлю асобных відаў рыбы, у асобных рыбалоўных угоддзях, у вызначаныя тэрміны, а таксама на выкарыстанне асобных прылад і (або) спосабаў рыбалоўства.

Лоўля ўсіх відаў рыбы ў рыбалоўных угоддзях забараняецца на тэрыторыі Віцебскай вобласці **з 10 красавіка па 8 чэрвеня**, за выключэннем, аматарскага рыбалоўства, якое ажыццяўляецца адной вудай з адным кручком або адным спінінгам, аснашчаным штучнай прынадай, з адным адзінарным, або падвойным, або патройным кручком ў светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) альбо з лёду, са штучных збудаванняў.

У гэты перыяд забаронена выкарыстанне грамадзянамі плаўсродкаў ўсіх відаў для перамяшчэнне па вадзе.

Акрамя названых забаронаў Правілы прадугледжваюць ўвядзення забароны на лоўлю асобных відаў рыбы, так:

■ для Віцебскай вобласці забарона на лоўлю шчупака звычайнага надыходзіць з 9 сакавіка да 25 красавіка ўключна; за незаконны вылаў шчупака або знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях з асобінамі шчупака прадугледжана адміністрацыйная альбо крымінальная адказнасць;

■ лоўля судака забаронена з 15 красавіка па 30 траўня

■ лоўля сама звычайнага забаронена з 31 траўня па 1 ліпеня ўключна.

Грамадзяне, затрыманыя ў рыбалоўных угоддзях у перыяд забароны, з асобінамі шчупака будуць прыцягваца да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры **ад 20 да 50 базавых велічынь**, а шкода за вылаўленую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры або 1 млн. 620 тысяч за адну асобіну шчупака, плюс вага кожнай асобіны. У выпадку, калі сума нанесеной шкоды будзе перавышаць 100 базавых велічынь у дачыненні да парушальніка завядуць крымінальную справу па арт. 281 КК РБ.

Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі ў перыяд наступлення вясновых забаронаў і абмежаванняў дзейнічаюць у поўным аб'ёме і праца за іх выкананнем толькі ўзмацняецца.

Паважаныя аматары рыбалкі, будзьце, калі ласка, гаспадарамі не толькі ў сябе дома, але і знаходзячыся на прыродзе, захоўвайце чысціню нашых прыгожых вадаёмаў, лясоў.

**Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 або маб. мтс: 897-23-02, 6456678, 890-55-28, 249-45-49.**

# Лукашэнка падпісаў указ, які працягвае да 1 студзеня 2016 года працу ІП без пацвярджальных дакументаў на тавары

**30 сакавіка Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ №143, якім прадугледжаны працяг да 1 студзеня 2016 г. пераходнага перыяду, цягам якога індывідуальным прадпрымальнікам дадзена права рэалізаваць рэшткі тавараў, увезеных без якіх бы ні было пацвярджальных дакументаў.**

Адпаведныя змены і дапаўненні ўнесены ва ўказ ад 16 траўня 2014 года №222 «Аб рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці і рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі».

Пры рэалізацыі тавараў без пацвярджаючых дакументаў ўстаноўлена прымяненне павышальнага каэфіцыента 2 пры вылічэнні адзінага падатку, а таксама спагнанне падатку на дададзеную вартасць у фіксаванай суме з яго павелічэннем у чатыры этапы за кошт прымянення наступных павышальных каэфіцыентаў:

2 – за перыяд з 1 па 31 сакавіка 2015 года;

2,5 – за перыяд з 1 красавіка па 30 чэрвеня 2015 года;

3 – за перыяд з 1 ліпеня па 30 верасня 2015 года;

4 – за перыяд з 1 кастрычніка па 31 снежня 2015 года.

У мэтах стымулявання індывідуальных прадпрымальнікаў набываць прадукцыю ў легальных вытворцаў і пастаўшчыкоў для тых з іх, якія будуць мець дакументы на ўсе тавары, дазваляецца перайсці на спрошчаную сістэму падаткаабкладання альбо з 1 красавіка, альбо з 1 ліпеня, альбо з 1 кастрычніка 2015 года.

Акрамя таго, ва ўказе выразна рэгламентуецца рэалізацыя тавараў фізічнымі асобамі Беларусі і замежнымі грамадзянамі.

У мэтах спынення неарганізаванай рэалізацыі тавараў фізічнымі асобамі ўводзіцца забарона на продаж тавараў на вуліцах, стадыёнах, у скверах, парках, грамадскім транспарце ці ў іншых грамадскіх месцах, за выключэннем рэалізацыі тавараў у месцах, устаноўленых мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

*БелТА*



# Казіміроўка

## Працяг успамінаў бабы Эдзі



Я добра памятаю, як мы з татам ездзілі на кірмаш у Дунілавічы. У той час кожны аўторак там адбываліся кірмашы.

У Дунілавічах жыло шмат яўрэяў, а дзе былі яўрэі, там ішоў добры торг. Туды мы часта ездзілі. Гэта быў наш кірмаш. Глыбокае знаходзілася нашмат далей, і там мы рэдка бывалі.

Едучы ў Дунілавічы, мы праязджалі добрую адлегасць лесам. Лясная дарога была проста казачнай прыгажосці. І было там месца, якое я асабліва любіла. У пачатку лесу, з правага боку, стаяў прыгожы домік лесніка, а непадалек – вялікі дом. Гэта было лясніцтва. А з левага боку быў вялікі абшар зямлі, якая апрацоўвалася. Зямля была роўненькая, як на малюнках. А ўдалечыні віднеліся пабудовы, у якіх жылі гаспадары, не многа, не больш за тры. Так прыгожа выглядала гэта паселішча, як у кружку, сярод лесу. Называлася яно Казіміроўка.

Гледзячы на гэта хараство я марыла, каб пасяліцца тут жыць, вядома, у маладосці аб чым мы толькі не марым.

Я любіла і сваю вёску. Па суседстве, дзе мы жылі, быў жанаты малады чалавек. Яго жонку звалі Марыля. Хоць і была яна за мяне старэйшая на 13 гадоў, але мы з ёй пасябравалі. Яна чытала польскія раманы і расказвала мне. Я падрастала пад дзеўку, мамы ў мяне не было, вось яна і стала маёй выхавальніцай, чалавекам, з якім можна было пагаварыць аб усім. Аднойчы ў нас зайшла размова пра месца, якое каму падабаецца. Аказалася, што нам абедзвюм падабаецца Казіміроўка. Як аказалася, у Марылі там дзядзька жыве. І вось яна і расказала мне гісторыю пра сваю радню.

У яе дзядзькі быў сын, ды такі прыгожы, што вачэй не адвесці. Падыйшла пара хлопцу ў войска ісці. Вось толькі не распытала я ў яе, дзе ён служыў, гэта адбывалася ў 20-х гадах мінулага стагоддзя.

Служба падыходзіла да канца, і адбылося няшчасце. На яго дзяжурстве, можа ён заснуў, абакралі вайсковую часць. Яму пагражала турма. І тут яго выклікае афіцэр, яго непасрэдны начальнік, і гаворыць: "Калі не хочаш быць судзімым і сесці ў турму, тады жаніся на маёй сястры, а я пастараюся замяць гэту справу".

Каму хочацца ў турму? Вядома, даў згоду на жаніцьбу. Але маладая была з дэфектам. Яны абое былі католікамі, павянчаў іх ксёндз у касцёле, адбыўся нейкі вечар іх вяселля. Скончыў хлопец вайсковую службу і адправіўся з маладой жонкай у Казіміроўку да бацькоў. Бацькі радасна сустрэлі, хоць адразу заўважылі, што не пара яна сыну, але разумелі, што такі лёс, жаніўся па няшчасцю.

Па характару яна была добрая, працавітая, паслушная, але выгляду не мела і не толькі гэта… Не ведаю, колькі ён пажыў з ёй, але не вытрымаў і сказаў бацькам, што пойдзе з дому, прасіў яе не выганяць. Так і зрабіў, пакінуў сваю Антаніну, ёй нічога не кажучы. Адышоў ён на той час далёка, пад Докшыцы. Там уладкаваўся ў бацюшкі за фурмана. У той час машын не было, і бацюшку трэба было ездзіць на кані. А на каня трэба было і сена накасіць, ды і зямлю апрацаваць. Усё ўмеў гэты ладны хлопец. Бацюшка яго вельмі палюбіў. Такі працавіты, паслушны, прыгожы, проста ўцеха.

А ў бацюшкі падрастала пад дзеўку дачка, ды закахалася ў бацькавага парабка. Бацюшка заўважыў гэта, мог яго адправіць, але вельмі прывык да яго, ды і бачыў, што дачка любіць так, што за ім пойдзе хоць на край свету. Вось і сказаў: "Дзеці, доўга не дружыце, трэба жаніцца". Тады хлопец сказаў, што Феню моцна любіць, але жаніцца не можа, таму што жанаты. І расказаў усё ад пачатку і да канца, што адбылося ў яго жыцці, і што ён не збіраецца жыць са сваёй жонкай. Бацюшка прапанаваў перайсці у праваслаўную веру і тады ён абвянчае іх у царкве. Так і зрабілі. Абвянчаўшыся ў царкве, з вялікай радасці і шчасця, што ў яго адбылося, паехаў з маладой жонкай у сваю Казіміроўку. Бацькі добра сустрэлі. Бачылі, што нявестка і з выгляду прыгожая, і далікатная. Вось гэта іхняму сыну пара!

А што адбывалася ў Антаніінай душы, толькі яна і ведала. Ніякай шуміхі не падымала і ад іх нікуды не пайшла. Відаць, не было куды ісці. Вось і пачалі жыць разам. Ішлі гады, нарадзіліся дзеці, дзяўчынка і хлопчык. Антаніна так палюбіла гэтых дзяцей, дапамагала ім гадаваць. Працавала, усё добра рабіла і не мела ніякай крыўды на іх. Яна была нібы за служанку, ці то за няўдачную дачку.

У 1940-м годзе да цёткі Марылі прыязджала на ровары іх дачка ды такая прыгожая, як лялька. Пра далейшае іх жыццё не ведаю. У 1941-м годзе пачалася вайна, і ўсё перамянілася.

